# Тыднёвік Магілёўскі




№ 10 (74) 17 — 23 сакавіка 2000 г. Кошт 50 руб.


МАРШ СВАБОДЫ-2

## Перамога над страхам



*... Можна ўявіць сабе, зь якой нянавісьцю глядзелі тэлэкадры пазаўчорашняга менскага Маршу Свабоды прыхільнікі беларускай дыктатуры і ў нас, і ў Расеі. І якой цеплынёй у сэрцах адгукалася тое ж відовішча ў душах тых, хто яшчэ ня страціў надзею на Адраджэньне Бацькаўшчыны. Людзі, а ў дэмакратычнай дзее ўдзельнічала больш за 20 тысячаў чалавек, пераадолелі і значыць перамаглі страх у сытуацыі, калі літаральна напярэдадні з вуснаў непасрэдна Лукашэнкі раздаваліся прамыя пагрозы і абразы на адрас тых, хто ня згодны з палітыкай рэжыму, хто прагне вольнага і прыстойнага жыцьця. Па ўсіх папярэдніх палітычных падзеях відавочна, што пагрозы гэтыя ў нас ня словы толькі. Яны заўсёды ўвасабляліся ў рэальныя перасьледы людзей, іх пакараньні, іх зьнікненьні, іх вымушаны зьбег з роднага краю ў замежжа...*

*Учора адбылося без, як тое гаворыцца, непрыемных эксцэсаў: улада ўстрымалася ад правакацыяў не па дабрыні душэўнай, а пад уласным страхам перад стойкасьцю людзей, салідарным настроем цывілізаваных грамадзтваў і беларускай дыяспары ў шмат якіх краінах. І ўсё роўна ня верыцца пакуль, што пройдзе без пасьледкаў: страх штурхае ўладу – да помсты...*

*Тыя, што выйшлі ўчора ў Менску і ў іншых гарадах краіны на вуліцу за сваю годнасьць і будучыню гэта ведаюць, а значыць гатовыя вытрымаць уладную злосьць і помсту. А значыць палітычная Вясна толькі пачалася. Яе вядомыя лёзунгі высакародныя: сумленныя перамовы з уладай для выхаду з тупіка, да якога прывяла грамадзтва Адміністрацыя, сумленныя выбары Вярхоўнай улады, сумленныя адносіны з Эўропай і ўсім сьветам.*

*... На сумленнасьці ўвесь час і спатыкаецца беларуская ўлада. Дакладней сказаць, цяперашняя ўлада. Беларуская па вызначэньні будзе сумленнай і цывілізаванай. За тое стаяць у сваёй Веры тысячы сумленных людзей. Учора яны былі на вуліцы. Чарговым разам выйдуць 25 Сакавіка. Страх больш не пануе над імі...*

***P. S.** Магілёўскі гарвыканкам (дарэчы, адзін з нямногіх у краіне) адмовіў мясцовым заяўнікам у іх праве правесьці ў Дзень канстытуцыі пікет і мітынг. Многія магілёўцы такім чынам узбуйнілі менскія калёны дэманстрантаў. Аднак 25 Сакавіка, як паведамілі рэдакцыі кіраўнікі мясцовых дэмакратычных суполак, масавыя мерапрыемствы пройдуць і ў нас.*

***Палітычны АГЛЯДАЛЬНІК "ТМ"***

НАША АПЫТАНЬНЕ



## Напярэдадні выбітнай даты

З першых адраджэнскіх акцыяў пачатку 90-х гадоў Дзень Волі – 25 Сакавіка ўсё больш спасьцігаецца грамадзтвам як найважнейшы дзень у Беларускай Гісторыі. Напярэдадні слыннай даты рэдакцыя правяла апытаньне, прысьвечанае дзьвюм падзеям найноўшага часу. Нашае пытаньне гучала так:

***– Якое месца ў вашым жыцьці займаюць Дні абвешчаньня БНР і заснаваньня БССР?***

Вось што адказалі:

**Анатоль Станчанка, магілёўскі пэнсыянэр.**

– Па-мойму, дзень заснаваньня БССР і ёсьць дзень сапраўднага стварэньня дзяржавы. Яе стваральнікі былі сапраўдныя беларусы, патрыёты. І невыпадкова Сталін іх рэпрэсаваў. Пра Дзень жа Волі мне мала што вядома, аднак я адчуваю, што ў гэтым ня толькі мая недасьведчанасьць, але і стараньне ўладаў.

**Аляксандра Пронькіна, магілёўская журналістка.**

– Для мяне ўзьнікненьне БССР увогуле ніколі ня мела значэньня. А вось падзеі, што адбываліся падчас абвешчаньня БНР, важныя для мяне, таму што праз часы закранулі маіх сябраў і блізкіх, шмат у чым вызначаюць іх сёньняшнія ўчынкі і справы. Высакародныя ўчынкі і справы. Значыць, дзень 25 Сакавіка таго варты.

**– Віктар Каралькоў, кіраўнік Горацкага народнага ансамбля "Верасень".**

Больш істотнае для нашай гісторыі, безумоўна, абвяшчэньне БНР. Бо не было б гэтага, ня ўзьнікла б, дарэчы, і БССР, ды й увогуле магло ня быць нас сёньняшніх як беларусаў, як асобнага народа.

**– Валянціна Гвазьдзёва, выканаўчы дырэктар Магілёўскага грамадзкага жаночага цэнтру падтрымкі і ўзаемадапамогі.**

Канешне, вага Дня Волі непараўнальная з бэсэсэраўскай датай. Бо тут быў прамень сьвятла ў цёмным царстве, а там будавалі вязьніцу.

**Анатоль Фёдараў, кіраўнік Магілёўскай арганізацыі БНФ (В.Вячоркі).**

– Стварэньне БССР было адказам бальшавікоў на патрабаваньні патрыятычных сілаў краіны аб дзяржаўнасьці Беларусі. Абвяшчэньне БНР было праяваю волі народа, а БССР зьявілася як кан'юнктурны адказ бальшавікоў.

**Міхась Карпечанка, бялыніцкі журналіст.**

.Дзень 25 сакавіка больш важкі. Гэта безумоўна, хоць сама дата і падзея ў савецкі час замоўчваліся, але зараз Дзень Волі вяртаецца ў грамадзкую сьвядомасьць. Без 25 сакавіка не было б і той другой даты, якая па сутнасьці зьявілася адказам бальшавікоў на палітычны выклік часу. І народны выклік.

**БЕЛАПАН для «ТМ»**

**Злучаныя Штаты Амэрыкі ня супраць супраць ініцыятывы шырокага грамадзкага дыялёгу, выказанай беларускімі ўладамі. Але ЗША па-ранейшаму лічаць, што толькі шляхам перамоваў паміж уладамі і апазыцыяй пры пасярэдніцтве АБСЭ можна выйсьці з канстытуцыйнага крызысу.**

Аб гэтым заявіў адмысловы дарадца дзяржсакратара ЗША па пытаньнях новых незалежных дзяржаваў Рос Вілсан на прэс-канфэрэнцыі ў Менску. Паводле словаў амэрыканскага дыплямата, ён заклікаў беларускія ўлады стварыць спрыяльны клімат для дыялёгу ў грамадзтве, зьняўшы абвінавачваньні з тых, каго ЗША лічаць палітычнымі зьняволенымі, зьмяніўшы выбарчае заканадаўства ў адпаведнасьці з рэкамэндацыямі АБСЭ і дазволіўшы апазыцыйныя дэманстрацыі, якія, на думку сп.Вілсана, таксама зьяўляюцца "формай дыялёгу".

Таксама сп.Вілсан лічыць, што інтэграцыю паміж Беларусьсю і Расеяй немагчыма прызнаць дабраахвотнай, бо ў Беларусі адсутнічаюць дэмакратычныя інстытуты.

●

**14 сакавіка суд Ленінскага раёна Магілёва адхіліў скаргу, пададзеную сьледчым Сьледчага камітэта пры Міністэрстве ўнутраных справаў Анатолем Смаленцавым.**

У скарзе Смаленцаў прасіў адмяніць рашэньне пракуратуры вобласьці, якая спыніла крымінальную справу аб паклёпе ў дачыненьні да вядомага адваката Веры Страмкоўскай. Яна абараняла былога старшыню аграпрамысловага аб'яднаньня "Рассвет" Васіля Старавойтава. Смаленцаў жа ўзначальваў сьледчую групу, якая праводзіла ў гаспадарцы расьсьледванне. Падчас судовага працэсу адвакат Страмкоўская запатрабавала прадставіць матэрыяльныя каштоўнасьці, у прыватнасьці 40 бутэлек каньяку "Белы бусел", што былі канфіскаваныя ў Старавойтава пры вобыску. Неўзабаве пасьля выступленьня Страмкоўскай у судзе ў дачыненьні да яе была ўзбуджаная крымінальная справа па абвінавачваньні ў паклёпе. Пасьля доўгай цяганіны нейкія 40 бутэлек каньяку ўсё ж былі прадстаўленыя на судзе.

**БЕЛАПАН для «ТМ»**

## Дзякуй, Майстар! І бывай...

Заўтра ў абласным Лялечным тэатры спэктакаль, якім Алег Жугжда разьвітваецца з магілёўскімі гледачамі. Тэатар, у творчую біяграфію якога назаўсёды ўпісанае гэтае імя – рэжысэра і актора, мастака і адміністратара – страчвае апошнюю сваю апору, на якой трымаўся ці не апошнія 20 год...



Такія людзі як Алег Жугжда ня робяць учынкаў пад уплывам хвіліннага настрою. Ягоная заява аб сыходзе ілюструе многае: цяперашні стан культуры грамадзтва, матэрыяльную і пабытовую неўладкаванасьць актораў, чынавенскую абыякавасьць улады да Тэатра. А можа ёсьць вынікам і якіх прыватных абставінаў... Што цяпер? Як бы ні было – гэта сум і страта. І ўдзячнасьць за ўсё, што зроблена.

Дзякуй, Майстар! Творчай і жыцьцёвай удачы ў новым месцы.

Мы будзем сумаваць...

***Рэдакцыя "ТМ"***

ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ



"РАСЕЯ ЯК МІТАТВОРЦА" ("ТМ"№№7-8)

## Час паглядзець у люстэрка

Добры дзень, **спадар Міхась**. Прачытаў Ваш артыкул "Расея як мітатворца". Ён мяне так узрушыў, што я вырашыў выказацца пра набалелае. Поўнасьцю згодзен з Вамі ў тым, што ўсе народы, якія ўваходзілі ў розныя эпохі ў склад Расейскай імпэрыі, ці хаця б сябравалі зь ёю, ніколі добра не жылі. Прыкладаў процьма. У пачатку стагодзьдзя Фінляндыя змагла захваць сваю незалежнасьць ад Расеі і цяпер яна, ня маючы сваіх карысных выкапняў, жыве нашмат лепш, чым багатая на іх Расея. І наадварот. Краіны Прыбалтыкі ў 1940 годзе страцілі незалежнасьць і "добровольно" увайшлі ў склад СССР. І хаця ўзровень жыцьця ў іх быў вышэй за іншыя савецкія рэспублікі (і толькі дзякуючы невялікаму стажу знаходжаньня ў Саюзе), яны выкарысталі першую ж магчымасьць вырвацца з расейскіх кіпцюроў і пасьпяшалі адгарадзіцца межамі. Пасьля гэтага сярэдні заробак насельніцтва гэтых краін (як, дарэчы, і краін былога Варшаўскага блёку) адразу пачаў расьці. Нашай краіне таксама гісторыя (ці сам Бог) падаравала незалежнасьць. Але наш народ (яго большасьць) ня здольны жыць самастойна. Таму, што на працягу ўсяго стагодзьдзя зьнішчаліся нашы нацыянальныя кадры. Заставаліся толькі "памяркоўныя", ад якіх нараджаліся дзеці, ўнукі. Я таксама нарадзіўся ў сям'і "савецкіх беларусаў". Але ўважліва вывучаў нашу гісторыю і рабіў адпаведныя высновы. Раней я быў ня згодзен з пагаворкай, што кожны народ мае той урад, які заслугоўвае. У мяне была ілюзія, што нашы людзі таксама змогуць разабрацца ва ўсім. Памятаю, як у пачатку перабудовы насіў сваім бацькам чытаць часопіс "Огонёк", а потым нашу незалежную прэсу. Але вынікаў я ня бачыў. І я зрабіў выснову, што працяглае замбаваньне людзей зрабіла сваю разбуральную ролю. Людзі ня толькі не гатовыя прызнаваць свае памылкі, але і здольныя іх зноў і зноў паўтараць. Яны ня чуюць тых, хто кажа: трэба, каб улада кантралявалася зьнізу, каб было разьмежаваньне ўладаў, незалежны парлямэнт, суд, прэса. Затое яны сьлепа аддаюцца тым, хто крычыць: дайце мне ўладу, я ведаю, як зрабіць вас шчасьлівымі, а ўсіх злодзеяў перасаджу. І калі па БТ кажуць "халва", ім робіцца салодка ("халва" падобна на "халява", а "на халяву й уксус сладкі"). І вось ужо калі народ не кантралюе ўладу, улада пачынае кантраляваць народ. Наручнікі апранаюць усім, каму не даспадобы "бацькіна халва". А народ пляскае ў ладкі, і хаця ўзровень жыцьця ўжо даўно ніжэй за той, што быў пры Кебічы (калі Лукашэнка назваў яго "ніжэй калена"), рэйтынг прэзыдэнта, як гэта ня сорамна, ад гэтых відовішч толькі расьце. Але калі чалавек заходзіць у краму і бачыць новыя цэньнікі, ня трэба зьдзіўляцца і задаваць прадаўцу рытарычныя пытаньні. Спытайце лепш у свайго куміра, толькі ён усё роўна не пачуе. Тады вы ідзіце дамоў, станьце перад люстэркам і спытайце ў сябе. Там трэба шукаць адказ.

P.S. Калі на пабытовым узроўні пачынаеш пытацца ў людзей – ці хочуць яны, каб іхныя грошы і маёмасьць аб'ядналі з тым, што мае іх сусед – лайдак і п'яніца, то жадаючых не знаходзіцца. А на ўзроўні краін гэта ня дзейнічае. Калі пытаесься, дзе б яны хацелі жыць, большасьць глядзіць на Захад, але галасуе за саюз з Расеяй! Бедны народ, якому Бог наканаваў быць узорам для іншых, як ня трэба жыць.

*З павагай, Віктар МАРЧАНКА*

МОЎНЫЯ СПРЭЧКІ ("ТМ" №9 )

## Гэта нешта занадта экзатычнае

Мабыць, за размовамі пра панаваньне расейскай мовы й нядаход любові да беларускай мы зусім забыліся пра існаваньне "трасянкі". Бясспрэчна, што людзей, якія правільна мовяць па-расейску, – мала. Яшчэ менш тых, хто правільна кажа па-беларуску. Але ж мы не ўлічылі, што карыстальнікі трасянцы ў краіне, дзе згодна палітыцы партыі, даўно ліквідаваная непісьменнасьць, умеюць пісаць. І гэта – горш за ўсё.

Гаворка ўжо не пра тое, які жах вы зьведаеце, прачытаўшы на каштовіку ў мясной краме – "Малыш пюреообразный" – тут якраз досыць зразумела, што мы маем справу з своеасаблівым "арго"-слэнгам працаўнікоў прыталкі. А калі трапіш на нешта ня меней дзівоснае, да таго ж, зробленае ў друкарні, то робіцца ўвогуле няёмка. Прыкладам, собіла нам пачаставацца шмат кім упадабанымі цукеркамі "Коровка". Адгадайце, на якой мове выкананы надпіс на абгортцы?..

Захапіўшыся гэткай "эгзотичностью", паспрабавалі мы адшукаць выходныя дадзеныя прадпрыемства-вытворцы. На жаль, спадары з СП "Канди" выявіліся сапраўднымі адмыслоўцамі ў галіне маскаваньня. А займацца контрвыведкай у нас жаданьня няма. Мабыць таму, што разумеем сваю мізэрнасьць і нікчэмнасьць перад **мізэраблямі**, – ці то "великий и могучий", ці то "родная трасянка"...

*АЛЕКСАНДРОВІЧЫ*
*(бацька і сын)*






## Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

**Абласная гідрамэтэаслужба паведаміла, што ў апошнія месяцы рэзка павялічылася шкодная забруджанасьць паветра – на 20%-30%. Мэтэаролягі патлумачылі гэты факт цёплым надвор'ем. Слабы вецер не разганяе тыя шкодныя рэчывы, што вылятаюць з трубаў нашых заводаў і аўтамабіляў. І ўвесь гэты бруд "затрымліваецца" ля нашых лёгкіх. Але ж крыху не згаджуся з спэцыялістамі. Ня ў ветры і ня ў сонейку справа. Яны ж дуюць і сьвецяць ня толькі ў нас, але і ў Нямеччыне, Гішпаніі і шмат дзе яшчэ. Але ж там, замест сьпісваньня на прыроду, прычыны шукаюць у сабе, разьвіваюць прыродазьберагальныя тэхналёгіі, штрафуюць парушальнікаў.**

**Крадуць у нас так і столькі, што калі-нікалі міжволі падумаеш: жывем мы зараз у дзяржаве рабаўнікоў, дзе ад самага галоўнага яе начальніка да самага маленькага падначаленага ўсе нешта аднекуль цягнуць. Аднак звыкнуцца з гэтым не даюць, калі так можна сказаць, асабліва выкшталцоныя выпадкі. Вось, прыкладам, такі факт. Днямі з Магілёўскага аўтазаводу невядомыя зьнесьлі 6 мэталічных плітак, каштоўнасьць якіх – у каляровых мэталах, а вага кожнай – да 60 кг. Як гэта можна прынесьці міма аховы, я асабіста ўявіць не магу.**

**Жахлівыя шэрагі носьбітаў сьмяротнага вірусу СНІДу за 2 месяцы гэтага году павялічыліся яшчэ на 5 чалавек, на падазрэньні ў захворваньні яшчэ трое...**

**Зоркі беларускай эстрады ладзяць дабрачынны канцэрт у нашым абласным цэнтры. Ядзьвіга Паплаўская і Аляксандар Ціхановіч, Іна Афанасьева, Валеры Дайнэка ды іншыя артысты дадуць на сцэне палаца культуры ВА "Хімвалакно" канцэрт, зборы ад якога накіруюць на пабудову дзіцячага рэабілітацыйнага цэнтру ў Магілёве. Высакародная справа, што і казаць. Аднак радасьць патухае ад такой думкі: на лядовы палац сродкі ёсьць, а на мэдычны цэнтар для дзяцей – няма. Можа хай бы наадварот: грошы ад канцэрту – на палац, а палацавыя сродкі – на дзіцячы рэабілітацыйны цэнтар. Хто яшчэ "за"?**

**На ўсходняй мяжы вобласьці штодня затрымліваюць грамадзян, якія ўпарта імкнуцца вывезьці тавары і прадукты на продаж у Расею. Напрыклад, днямі ў Чэрыкаўскім раёне быў затрыманы чалавек, які намерваўся вывезьці да суседзяў 250 літровых пакетаў малака, 20 кг сьметанковага масла, 100 пачак тварагу. Затрымалі, сканфіскавалі, аштрафавалі. Аднак асуджаць людзей, якія хочуць зарабіць, няхай сабе і такім чынам, не падымаецца рука. Тут справа ня ў злачынных памкненьнях, а ў эканамічных умовах і абставінах. Яны ж заўсёды былі і застануцца мацней ня толькі за асобнага чалавека, а і цэлых дзяржаваў. Гэта толькі наш урад намагаецца даказаць адваротнае. Не ў адзіноце, праўда: з намі Карэя, вядома, дэмакратычная, і Куба, таксама не без дэмакратыі і сацыялізму.**

**Яшчэ адна праява крызысу ў сельскай гаспадарцы – стан ільноперапрацоўкі. Галіновыя прадпрыемствы на мяжы спыненьня. Зараз на вытворчых складах усяго 3200 тон сыравіны, якой хопіць толькі на сакавік. А потым заводы прыйдзецца зачыняць да новага ўраджаю. Рабочыя пойдуць у адпачынак, які ня будзе аплочвацца.**

*Да сустрэчы.*
*Сымон Глазштэйн*




СУДОВЫЯ ВЕСТКІ

## Што вырашыцца за зачыненымі дзьвярыма

Калі гэты нумар "ТМ" выйдзе з друку, прысуд Дзьмітрыю Абадоўскаму, верагодней за ўсё, будзе ўжо вядомы. Пакуль жа мы маем зьвесткі толькі пра тое, што запатрабавалі абаронцы падсуднага і пракурор.

Адвакаты прасілі суд прызнаць падсуднага невінаватым, бо, на іх думку, у судзе доказы злачынстваў з боку Дзьмітрыя Абадоўскага не знайшлі абгрунтаванага і пераканаўчага пацьверджаньня. Тое, ці лепей сказаць, якім чынам настойвае на сваім абвінаваўчы бок, зьбянтэжвае... Мяркуйце самі.

На думку пракурора Іглікавай, Д. Абадоўскі павінен атрымаць пакараньне ў выглядзе 6 год пазбаўленьня волі за "згвалтаваньне". Па сьведчаньні (дарэчы, нагадаем, што працэс зачынены) грамадзкага абаронцы падсуднага, ягонага бацькі Сяргея Абадоўскага, пракурор абумовіла сваё патрабаваньне наступным (амаль даслоўна): **так, факт згвалтаваньня дакладна ня высьветлены, але ж і верагоднасьць яго ня выключаная**. Магчыма, гэта трэба разумець такім чынам: калі паўнавартасны мужчына чакана ці нечакана сутыкнецца ў цёмным завулку з жанчынай – яму можна сьмела даваць, сама мала, 6 год няволі.

Ня менш дзівосныя й рацыі пракурора наконт інкрымінуемых Дзьмітрыю Абадоўскаму дзьвюх крадзяжоў. Яна, сп-ня Іглікава, запатрабавала ў суда прыняцьця сапраўднасьці тых фактаў, што былі пададзеныя сьведкам з боку абвінавачваньня на стадыі папярэдняга сьледства. Нагадаем, што гэты сьведка ў судзе даводзіў, што паказаньні былі атрыманыя пад націскам і таму незаконна. Які, цікава, у нас год на двары, ці ня 37-мы? – пытаюцца наглядальнікі за судовым працэсам...

На момант гэтых нататак прысуд блізкі. Але ці блізкае *да праўды* правасудзьдзе? Як мы паведамлялі, на мінулым тыдні ля будынку суда стаяў пікет у абарону... годнасьці судзьдзі Юрчанкі, а літаральна ў апошні дзень суду нехта ў будынку і побач раскідаў улётку-заклік наступнага зьместу (падаем на мове арыгіналу): "Судья Юрченко не осудит невиновного!"

Ці так гэта насамрэч, пабачым...

*Аляксандар АЛЕКСАНДРОВІЧ,*
*карэспандэнт "БДГ" –*
*спэцыяльна для "ТМ"*

## Заслужыў, заслужыў...

Прафэсар катэдры гісторыі Беларусі Магілёўскага ўнівэрсытэта Г.І.Валчок, вядомы нашым чытачам, у прыватнасьці, па публікацыі "Партыёты" ("ТМ" №5), узнагароджаны прэміяй у 20 тысячаў рублёў (новых) з адмысловага фонду прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь па сацыяльнай падтрымцы адораных навучэнцаў і студэнтаў. У суправаджэньні пазначана: *"за личный вклад в развитие способностей талантливой молодёжи"*...

Парадуемся за прафэсара. Хаця крыху шкада *талантлівых* юнакоў і дзяўчат, бо ім менш дастанецца. Але, відаць, палічылі, што яны і так адораныя.

*Б.М.*

# 100 зруйнаваных архітэктурных помнікаў Магілёву

***У папярэдніх нумарах "ТМ" былі прадстаўленыя: Ратуша, Касьцёл сьв. Ксавэрыя, Калегіум Езуітаў, Сынагогі, Траецкая й Петрапаўлаўская цэрквы, Паркі гораду.***

## ІОСІФАЎСКІ САБОР

У 1772 годзе паводле канвэнцыі трох імпэрыяў – Расейскае, Прускае і Аўстрыйскае – адбыўся першы падзел Рэчы Паспалітае – дзяржавы абодвух народаў. 5 верасьня 1772 году расейцы ўвайшлі ў Магілёў. Па ўсіх царквах, касьцёлах, габрэйскіх школках быў агалошаны маніфэст імпэратрыцы расейскае Кацярыны II аб акце падзелу Рэчы Паспалітае. 10 верасьня ў Кафэдральнай царкве была прынятая прысяга на вернасьць імпэратрыцы і ейнаму спадкаемцу Паўлу Пятровічу. Новыя рэаліі, нязвыклы лад, новыя жыцьцёвыя варункі.

Згодна з наказам Кацярыны II ад 28 траўня 1772 году Магілёў абвяшчаўся губэрнскім горадам. Сутнасьць і складнікі губэрні цягам 25 год зьмяняліся.

У траўні 1780 году Магілёў стаўся мейсцам сустрэчы імпэратрыцы Кацярыны II з імпэратарам аўстрыйскім Іосіфам II. Спадканьне дзьвюх каранаваных асобаў, якія непасрэдна спрычыніліся да падзелу Рэчы Паспалітае, сталася сьведчаньнем незваротнасьці факту падзелу некалі моцнае краіны. Недаравальна будзе не ўзгадаць, што гэта былі за асобы – моцныя, таленавітыя, у нечым падобныя, у нечым зусім розныя. Імпэратар аўстрыйскі Іосіф II – прадстаўнік асьветніцкага абсалютызму. Праводзіў палітыку пратэкцыянізму, спрыяў і заахвочваў намаганьні паспалітага люду да стварэньня мануфактураў. Адмяніў прыгон, увёў адзіны пазямельны падатак. Абмежаваў самастойнасьць каталіцкае царквы ў аўстрыйскіх землях, выдаў талерантны патэнт аб свабодзе веравызнаньня. Садзейнічаў развіцьцю сьвецкае школы.

Імпэратрыца расейская Кацярына II (Софія Фрэдэрыка Аўгуста Ангальт-Цэрбская) была ўвадначасьсе вядомай і загадкавай асобай для Беларусі. Рашучая кабета, якая з дапамогаю гвардыі скінула з прастолу свайго мужа Пятра III. Рашучасьць, абачлівасьць, жорсткасьць, адукаванасьць дапамагалі ёй дамагацца перамогаў ува ўнутранай і вонкавай палітыцы. Імпэратрыца займалася літаратурнай творчасьцю, публіцыстыкай.

Спадканьне Кацярыны II з Іосіфам II было абстаўлена пампезна й шыкоўна. Быў пабудаваны тэатр і вялікая заля па пляну архітэктара Брыгонцыя. У Магілёў з Пецярбургу наведалася прыдворная опера, лепшыя музыкі й артысты. Дзеля гэтае сустрэчы былі адмыслова падрыхтаваныя вайсковыя аддзелы. У Магілёў зьехаліся міністры, частка двара, мяйсцовая шляхта, іншаземцы. Амаль штодзённа ладзіліся балі й сьвяткаваньні. Непадалёк ад Магілёву ў бок Шклову была пабудаваная багата аздобленая, трыюмфальная брама, каля якой імпэратрыцу сустракаў беларускі намесьнік граф Чарнышоў. Эстафэту сустрэчаў працягнуў архіепіскап Магілёўскі Георгі Канінскі й рыма-каталіцкі архіяпіскап Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч.

Прыезд імпэратара Аўстрыі меў больш празаічны расклад. Іосіф наведаўся ў Магілёў пад прозьвішчам графа Фалькенштэйна за дзень да прыезду Кацярыны. Аўстрыйскі імпэратар блукаў па вулачкам гораду й дзівіўся ягонай прыгажосьці. За гэтым заняткам ён і сустрэўся з губэрнатарам Пасекам, які асабіста ведаў імпэратара.

Пятага дня з нагоды сустрэчы імпэратараў была закладзеная царква Сьв. Іосіфа. Царква будавалася па праекту архітэктара Мікалая Львова ў стылі клясыцызму. Культавы будынак паўстаў на галоўнай вуліцы Магілёва – Дняпроўскім праспэкце ў 1798 годзе й стаўся неад'емнай часткай Саборнае плошчы. Хаця тутака варта адзначыць, што плошча, як і сам Храм дапаўнялі адно аднаго. Царкве Сьв. Іосіфа ў 1802 годзе быў нададзены статус Сабора. Будынак Храму быў квадратны ў пляне. Галоўны фасад меў шэсьць шулаў, якія абапіраліся на прыступкавы стылябат, у сваю чаргу шулы былі апірышчам трохкутнікавага франтону. Над уваходным франтонам узвышаўся сфэрычны купал, які складаўся з дзьвюх абалонак. Ува ўнутранай абалонцы было 12 круглых арачных праёмаў, у цэнтры ж – круглая адтуліна. У інтэр'еры купал пры дапамозе ветразяў абапіраўся на 4 масыўныя пілёны, якія ствaралі ўнутраны квадрат. Інтэр'ер быў багата аздоблены: парныя іанічныя шулы, сьветла-жоўты, зялёны мармур, шыкоўная размалёўка, ляпніна, нішы са статуямі, абразы на медных шчытах мастака Ў. Баравікоўскага.

Пабудова сабору Сьв. Іосіфа, ягоная архітэктура аказала значны ўплыў на разьвіцьцё культавага дойлідтва на Беларусі ў 19 стагодзьдзі. Ня лішне будзе дадаць, што падобнае збудаваньне ёсьць ў Вене. Той сабор носіць назву Сьвятой Кацярыны.

За часамі Саветаў 1932-37 г.г. у будынку Сабору, які ўжо колькі год не выконваў сваіх першасных функцыяў, месьціўся музэй гісторыі рэлігіі й атэізму. У 1938 годзе пачалася перапляніроўка Магілёву, які мусіў стацца сталіцай Беларусі. Падчас гэтай самай перапляніроўкі сабор і быў зьнішчаны. На мейсцы сабору Сьв. Іосіфа зараз гатэль "Днепр". Ад саборнай плошчы засталася толькі арка ў гонар Кацярыны II, перапробленая пад арку ў гонар вайсковых адзінак, якія вызвалялі Магілёў у 1944 годзе.

***Алесь АСІПЦОЎ***

*Крыніцы інфармацыі: "Магілёў на скрыжаваньнях" А.Агеева, І.Пушкіна; артыкул Валерыя Маразевіча з "Магілёўскай даўніны" за 1995 год.*




РУБРЫКА ДОКТАРА ВАСІЛЯ АЎРАМЕНКІ

# Беларуская мэдыцына: міты і пэрспэктывы

Ледзь не любімая тэма сёньняшняй крытыкі – стан нашай мэдыцыны. І сапраўды, хворых людзей усё больш, а атрымаць эфэктыўную дапамогу становіцца ўсё цяжэй. Якія б прычыны гэтаму не былі, але падае давер да афіцыйнай мэдыцыны, а зь ім і прэстыж лекарскай прафэсіі.



Ці можна сёньня казаць пра ўласна беларускую мэдыцыну? Не сакрэт, што ўся яна – толькі аскепак былой савецкай, але "аскепак" гэты ўсё больш аддаляецца ад сваіх літоўскіх, расейскіх або грузінскіх калег. І аддаляецца таму, што застаецца самым "закансэрваваным" і нязьменным. Жыцьцё, між іншым, не стаіць на месцы – эканоміка, тэхналёгіі, навакольнае асяродзьдзе і нават хваробы мяняюцца ў часе. А што ж наша тутэйшая "ахова здароўя"?

Многія і дасюль лічаць, што за савецкім часам мэдыцына была ледзь ня самай прагрэсыўнай. Але ж тэхнічнае адсталаньне ня ад заходніх стандартаў у 80-я гады ўжо складала 10-15 гадоў. Сёньня мы ганарымся адзінымі на вобласьць КТ- і МРТ-тамографамі, а на Захадзе такія апараты даўно ёсьць у кожным шпіталі. Тое ж можна сказаць пра хірургічнае і рэанімацыйнае абсталяваньне, стаматалягічныя тэхналёгіі, лекавае забясьпечаньне і многае іншае. Шмат з таго, што ў нас лічыцца "модным", "за бугром" – учорашні дзень.

А самы важкі "козыр" апалягетаў савецкай мэдыцыны – бясплатнасьць і агульнадаступнасьць – разьбіла самое жыцьцё. Сёньня па сутнасьці старая сыстэма аховы здароўя стала і небясплатнай (амаль усе прэпараты трэба купляць), і цяжкадаступнай (вельмі складана атрымаць якасную, кваліфікаваную дапамогу). Урэшце рэшт, савецкая сыстэма аховы здароўя існавала ня столькі для хворых, колькі для дзяржавы. Сярод дактароў нават быў такі жарт: "Каб ня хворыя – мы б працавалі яшчэ лепш". І сапраўды, хворыя перашкаджалі дасягеньню "галоўных" мэтаў – выканаць плянавыя паказчыкі, зьнізіць захворваемасьць, інваліднасьць, выдаць як мага менш бюлетэняў і г.д.

Але ж сёньня вядома, што здароўе народа ў першую чаргу залежыць ад эканамічных, сацыё-культурных і экалягічных варункаў, а толькі потым ад узроўню мэддапамогі. Так што палітыкі і эканамісты ўплываюць на здароўе нацыі значна больш, чым лекары, якія толькі канстатуюць крытычны стан нашага хворага грамадзтва і спрабуюць хоць крыху працягнуць жыцьцё яго асобным прадстаўнікам.

І бывае, гэта ўдаецца. Сярод нешматлікіх станоўчых момантаў – павышэньне кваліфікацыі нашых гематолягаў ("дзякуючы" Чарнобылю), ранняя дыягностыка паталёгіі плода, стварэньне аддзяленьняў лапараскапічнай хірургіі, можна згадаць і трансплянталёгію. Праўда, у Беларусі перасаджваюць пакуль толькі ныркі й патрэба ў такіх апэрацыях значна пераўзыходзіць прапанову – не хапае донараў. Гэта паўсюдная і дэлікатная праблема, бо донарамі становяцца звычайна маладыя людзі, атрымаўшыя траўмы, несумяшчальныя з жыцьцём. Ніякімі законамі ў нас гэтыя апэрацыі не рэглямэнтуюцца, ёсьць толькі інструкцыя мінздрава, якая дазваляе ў выпадку гібелі мозгу і захоўваньні апаратнага дыханьня і кровазвароту браць органы для перасадкі. Такія прэцэдэнты, хоць і рэдка, былі і ў Магілёве.

І ўсё ж асобныя прыклады прымяненьня новых мэдтэхналёгіяў ня робяць надвор'я ў беларускай сыстэме аховы здароўя, якая адстае ня толькі тэхнічна, але і арганізацыйна. Фактычна наша дзяржава-банкрут ня ў стане фінансаваць мэддапамогу нават у тых мінімальных памерах, як было за савецкім часам. На ўтрыманьне адпаведных установаў Магілёва ў 2000 годзе знойдзена пакуль менш паловы заплянаваных сродкаў, дый тыя, як правіла, расходуюцца ня лепшым чынам. За мяжой закупляюцца дарагія і рэдкія антыбіётыкі ці нэйралептыкі, у той час як няма анальгіна і простых лекаў ад грыпу. Значныя сродкі ідуць на лекаваньне алькагольных атручваньняў, а няма адэкватнай дапамогі хворым інсультамі або інфарктамі. Сьпіс падобных недарэчнасьцяў можна працягнуць, і вінаватыя тут ня столькі чыноўнікі, колькі самая сыстэма, у якой чужыя, "нечыя" грошы расходуюць "чужыя дзядзькі". Ні самі хворыя, ні грамадзкасьць, ні нават дактары не бяруць у гэтым працэсе ніякага ўдзелу. Між тым даўно доказана, што найбольш рацыянальна **сваімі** сродкамі распараджаюцца самі спажыўцы, якія праз бальнічныя касы пры ўдзеле экспэртаў вызначаюць аб'ём і якасьць неабходнай мэддапамогі. І не выпадкова ў краінах былога сацлягеру пачалося развіцьцё страхавой і прыватнай мэдыцыны. У нас гэтыя кволыя парасткі амаль цалкам зьніклі ў канцы 90-х. А дарма, бо менавіта ва ўмовах спалучэньня і канкурэнцыі розных формаў арганізацыі аховы здароўя можна дасягнуць найлепшых вынікаў: як сацыяльна-эканамічных, так і чыста мэдычных. Сёньня ж наша мэдыцына вельмі часта ня можа аказаць дапамогу ні бедным, ні багатым, ні за грошы, ні дарма. А таму карэнныя зьмены ў ёй насьпяваюць як з боку хворых і дактароў, так і з боку дзяржавы і ейнага чынавенства. Але ж хіба толькі мэдыцына ў Беларусі ў такім нямоглым стане? Колькі яшчэ "правалаў" у нашым грамадзтве, якое само хутка ператворыцца ў адзін "вялікі правал"...

# Праграма тэлебачаньня з 20 сакавіка па 26 сакавіка

## •• Понедельник, 20 марта ••

Праграму тэлеканалаў мы друкуем на замову чытачоў. Гаспадары праграмы падаюць нам яе на расейскай. Рэдакцыя фізычна (па часе) не пасьпявае яе перакласьці. Просім разглядаць гэтыя старонкі як тэхнічна-службовы матэрыял, які ня мае дачыненьня да зьместу й характару нашай газэты.

### БТ

6.30, 7.10 Доброе утро, Беларусь!
7.00, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 23.50 Новости.
8.15 Резонанс.
9.10 Потребительская корзина.
9.25 "Сегодня с вами..."
9.50 Здоровье.
10.15 "Древо вечности". Док.фильм.
10.25 Мультиклуб.
11.15 "Кофе с ароматом женщины".
11.55 Мультфильм.
12.05 Теленавигатор.
12.25 Музыка без границ.
13.10 Н.Черкасов в худ.фильме "Суворов".
15.10 "Тайный мир Алекс Мак".
15.35 Мультфильмы.
16.05 ТВ — школе.
16.35 Авто-парк.
16.45 Премьера песни.
17.10 Док.фильм.
18.00 "А музыка звучит..."
18.25 "Понедельник с "Христофором".
18.40 Спортивные новости.
19.20 Политические диалоги.
19.50 "Кофе с ароматом женщины".
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.40 Событие.
22.00 "В небе "ночные ведьмы". Худ. фильм.
23.15 Криминальная хроника.
23.20 Третий тайм.

### ОРТ

14.00, 17.00, 23.25 Новости.
14.20 "Охотники за привидениями".
14.45 Что да как.
15.00 Звездный час.
15.25 ...До шестнадцати и старше.
16.00 "Нежный яд".
17.25 Выборы - 2000.
17.30 Банка комиксов.
18.00 Мы и время.
18.45 Сериал "Убойная сила". 5-я серия.
19.45 Спокойной ночи, малыши!
20.00 Время.
21.00 Сериал "Секретные материалы".
22.00 Сериал "Десять лет, которые..." 6-я серия. Год 1995. "Кому война..."
22.40 Взгляд.
23.40 "Майк Хаммер. Позор для прокурора".

### "РОССИЯ"

16.00, 19.00, 22.00 Вести.
16.25 "Башня".
17.25 Док. фильм.
18.25 "Круглый стол".
19.50, 22.35 Ж.Смит и М.Онткин в мелодраме "Семейный альбом".
23.35 "Мода +ТВ".
0.15 Телеспецназ: "Дежурная часть".

### НТВ

5.00, 5.30, 5.45, 6.00, 6.30, 6.45, 7.00, 7.30 "Сегодня утром".
7.55 "Она написала убийство".
9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 18.00, 21.00 Сегодня.
9.25 Вчера в "Итогах".
10.45 Куклы.
11.30 "Старый телевизор" вспоминает: "Место встречи изменить нельзя".
13.30 "Чистосердечное признание".
13.55 "Улицы разбитых фонарей- II". "Ловушка для мамонта".
15.35 "Лоис и Кларк. Новые приключения супермена".
16.25 Интересное кино.
16.35 Впрок.
16.50 "Любовь и тайны Сансет Бич".
17.40 Криминал.
18.40 Герой дня.
19.00 "Скорая помощь".
19.55 Совершенно секретно.
21.45 Двое.
22.35 Сегоднячко.
23.15 Сегодня в полночь.
23.40 "Антропология".
0.15 "Футбольный клуб" представляет Лигу чемпионов.

### "КУЛЬТУРА"

11.30, 13.30 Новости культуры.
11.40 Шедевры мирового музыкального театра. "Танец сквозь тьму". Рудольф Нуреев.
12.40 "Огненное письмо". Финифть.
13.45 Мультфильмы.
14.20 За околицей.
14.30 "С потолка".
15.00 Новости.
15.10 "Тайна Сагалы". Телесериал.
15.35 "А вдруг получится". Мультфильм.
15.40 О пользе традиций, или Русские в Англии.

### "МОГИЛЕВ-1" на БТ

13.10 Пунктир.
13.50 Телелоцман.
14.10 "Могилевщина православная".
14.30 Мультфильмы.

### "МОГИЛЕВ-1"

6.30,7.10 "Ранехонько!"
7.00 Астро-дайджест.
8.05 "Искушение". Телесериал.
8.50 "Очевидец". Док.сериал.
9.20 "Без ошейника". Худ.фильм.
16.30 "Диагноз:убийство". Телесериал.
17.20 Мультфильм.
17.30 "Как они это построили". Док.сериал.
17.55 "Праздник в Вашем доме".
19.00 Тяжелый день.
19.20 Телемагазин.
19.30 День области.
20.00 "Праздник в Вашем доме".
20.45 "Крепостная актриса". Худ.фильм.
22.20 Астро-дайджест.
22.30 "Каменская. Убийца поневоле". Детектив.

### 2 КАНАЛ

7.00 "Энергетический завтрак".
8.10—12.00 ТВ-6.
15.00 ТВС представляет.
18.00 "Победоносный голос верующего".
18.30 Городские новости.
18.45 "Мир Анны Уокер. Новая Зеландия". Док. фильм.
19.10 Мультфильм.
19.28 Прогноз погоды.
19.30 "Поздравления".
20.15 "В гостях у бабки Агапки".
20.30 "Поздравления".
21.20 Высокая мода.
21.30 Городские новости.
21.45 "Город мертвецов". Худ. фильм.
23.15 Спортивная программа.

## •• Вторник, 21 марта ••

### БТ

6.30, 7.10 Доброе утро, Беларусь!
7.00, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 23.45 Новости.
8.15 Политические диалоги.
8.40 Потребительская корзина.
9.10 ТВ — школе.
9.40 "На волне взаимопонимания".
10.30 "Сегодня с вами..."
11.15 "Кофе с ароматом женщины".
11.55 Третий тайм.
12.25 "Владыко". Док.фильм.
13.10 Худ.фильм "Сеанс одновременной игры".
14.15 Туробъектив.
14.35 Бездельник.
15.10 "Тайный мир Алекс Мак".
15.35 Видеокурс итальянского языка.
16.05 Видеокурс английского языка.
16.30 Сельчане. Минская область.
17.15 "Два визита", "На даче". Короткометражные худ.фильмы.
18.00 К 160-летию со дня рождения Франтишка Богушевича.
18.20 VI Международный славянский фольклорный фестиваль "Коляда-2000".
18.45 Спортивные новости.
19.20 "Сегодня с вами..."
19.50 "Кофе с ароматом женщины".
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.40 Событие.
22.00 Кинокомедия "Теща".
23.10 Криминальная хроника.
23.15 Музыкальный салон.

### ОРТ

8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.50 Новости.
8.15 "Нежный яд".
9.15 Джентльмен-шоу.
9.45 Как это было.
10.20 "Ералаш".
10.30 "Новые приключения Синдбада".
13.30 Программа "Вместе".
14.20 "Охотники за привидениями".
14.45 Возможно все!
15.00 Программа "Царь горы".
15.25 ...До шестнадцати и старше.
16.00 "Нежный яд".
17.25 Выборы - 2000.
17.30 Планета КВН.
18.00 Ищу тебя.
18.45 Сериал "Убойная сила". 6-я серия.
19.45 Спокойной ночи, малыши!
20.00 Время.
21.00 "Противостояние". 4-я серия.
22.05 Сериал "Десять лет, которые..." 7-я серия. Год 1996. "Голосуй, а то..."
23.10 Георгий Жженов в программе "Жизнь замечательных людей".

### "РОССИЯ"

7.00, 8.00, 16.00, 19.00, 22.00 Вести.
7.25 Телеспецназ: "Дежурная часть".
7.40 Семейные новости.
8.20 "Крот в зоопарке". Мультфильм.
8.30 "Арена — спорт".
9.00 Мультфильмы.
9.35 Кинокомедия "Хиппиниада, или Материк любви".
16.20 "Башня".
16.45 Худ. фильм "Джокер".
18.25 "Круглый стол".
19.50, 22.35 Музыкальный ринг. 25 лет в эфире.
23.10 Музыка и кино М.Таривердиева.
0.05 Телеспецназ: "Дежурная часть".
0.20 Магазин на диване.

### НТВ

5.00, 5.30, 5.45, 6.00, 6.30, 6.45, 7.00, 7.30 "Сегодня утром".
7.55 Совершенно секретно.
9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 18.00, 21.00 Сегодня.
9.25 Герой дня без галстука.
10.00 Большие родители.
10.40 "Свидетель века".
11.30 "Старый телевизор" вспоминает: "Место встречи изменить нельзя".
13.30 "Итого".
13.50 "В нешу гавань заходили корабли".
15.35 "Лоис и Кларк. Новые приключения супермена".
16.25 Интересное кино.
16.35 Впрок.
16.50 "Любовь и тайны Сансет Бич".
17.40 Криминал.
18.40 Герой дня.
19.00 "Скорая помощь".
19.55, 21.45 "Глас народа".
22.35 Сегоднячко.
23.15 Сегодня в полночь.
23.40 Криминальная комедия "Тривиальное чтиво".

### "КУЛЬТУРА"

11.05 Мультфильмы.
11.30, 13.30 Новости культуры.
11.40 "Взрослые дети". Худ. фильм.
13.10 "Тарханы" с Тамарой Мельниковой". Передача 1-я.
13.45 Мультфильм.
14.05 Вспоминая Уланову.
15.00 Новости.
15.10 "Тайна Сагалы". Телесериал.
15.35 Ортодокс.
16.00 Ч.Диккенс. "Тайна Эдвина Друда". Телеспектакль. Часть 1-я.

### "МОГИЛЕВ-1" на БТ

14.13 Тяжелый день.
14.33 Мультфильмы.

### "МОГИЛЕВ-1"

6.30,7.10 "Ранехонько!"
7.00 "Навіны раніцы".
8.05 "Искушение". Телесериал.
8.50 "Очевидец". Док.сериал.
9.20 "Каменская. Убийца поневоле". Детектив.
16.30 "Диагноз:убийство". Телесериал.
17.20 Мультфильм.
17.30 "Фанатики колес". Док.сериал.
17.55 "Праздник в Вашем доме".
19.00 Бобруйский вариант.
19.20 Телемагазин.
19.30 День области.
20.00 "Праздник в Вашем доме".
20.45 "Клуб женщин". Комедия.
23.10 Астро-дайджест.
23.20 "Агирре, гнев божий". Драма.

### 2 КАНАЛ

7.00 "Энергетический завтрак".
8.10—12.00 ТВ-6.
15.00 ТВС представляет.
18.00 "Победоносный голос верующего".
18.30 Мультфильм.
18.40 "Ночи Малибу".
19.23, 20.58 Прогноз погоды.
19.25 "Поздравления".
21.00 "Фантастические создания. Инопланетяне". Док. фильм.
21.25 Высокая мода.
21.35 "Седьмая пуля". Худ. фильм.
22.55 Спортивная программа.

## •• Среда, 22 марта ••

### БТ

6.30, 7.10 Доброе утро, Беларусь!
7.00, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 23.45 Новости.
8.15 "Сегодня с вами..."
8.40 Потребительская корзина.
9.10 Видеокурс итальянского языка.
9.40 Око.
10.00 "Все мы родом из детства".
11.10 "Кофе с ароматом женщины".
11.50 Мультфильм.
12.05 Компьютерный полигон.
12.25 Зорная ростань.
13.15 Видимо-невидимо.
14.25 Ток-шоу "Карамболь" с участием Александра Гордона.
15.10 "Тайный мир Алекс Мак".
15.35 "Остров сокровищ". Мультфильм.
16.25 "5 х 5".
17.10 "Весенняя элегия". Фильм-концерт.
17.30 "Макаенка,9".
18.00 "Несвижские отражения". Док. фильм.
18.20 "Тени и личности". Телеочерк.
18.40 Спортивные новости.
19.15 "Москва — Минск".
19.45 Лотерея "Толока".
19.55 "Кофе с ароматом женщины".
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.40 Событие.
22.00 С.Юрский в кинокомедии "Золотой теленок". 1-я серия.
23.10 Криминальная хроника.
23.15 Королевская охота.

### ОРТ

8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 22.50 Новости.
8.15 "Нежный яд".
9.15 Банка комиксов.
9.45 Ищу тебя.
10.20 "Ералаш".
10.30 "Новые приключения Синдбада".
13.30 Программа "Вместе".
14.20 "Охотники за привидениями".
14.45 Классная компания.
15.00 Зов джунглей.
15.25 ...До шестнадцати и старше.
16.00 "Нежный яд".
17.25 Выборы - 2000.
17.30 Маски-шоу.
18.00 Человек и закон.
18.45 Сериал "Убойная сила". 7-я серия.
19.45 Спокойной ночи, малыши!
20.00 Время.
21.00 Сериал "Противостояние". 5-я серия.
22.05 Сериал "Десять лет, которые..." 8-я серия. Год 1997. "Герой нашего времени".
23.05 Программа "Цивилизация".

### "РОССИЯ"

7.00, 8.00, 16.00, 19.00, 22.00 Вести.
7.25 Телеспецназ: "Дежурная часть".
7.40 Семейные новости.
8.20 Квантовая медицина
8.30 "Арена — спорт".
9.00 Гомеопатия и здоровье.
9.15 "Цыганка".
10.05 "Санта-Барбара".
11.00 Телеспецназ.
11.25 "Москва — Минск".
16.20 "Башня".
17.10 А.Жарков, В.Павлов, В.Этуш в авантюрной комедии "Не будите спящую собаку". 1-я серия.
18.25 "Круглый стол".
19.50 Премьера. Ким Каттралл и Крэйг Нельсон в триллере "Бездна" (США). 1-я серия.
21.45, 22.35 "Кино+ТВ".
23.20 Телеспецназ: "Дежурная часть".
23.30 Магазин на диване.

### НТВ

5.00, 5.30, 5.45, 6.00, 6.30, 6.45, 7.00, 7.30 "Сегодня утром".
7.55, 9.25 "Глас народа".
9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 18.00, 21.00 Сегодня.
10.10 Пойми меня.
10.40 "Среда".
11.30 "Старый телевизор" вспоминает: "Место встречи изменить нельзя".
13.30 В.Федорова, О.Янковский и В.Гафт в фильме "О любви".
15.35 "Лоис и Кларк. Новые приключения супермена".
16.25 Интересное кино.
16.35 Впрок.
16.50 "Любовь и тайны Сансет Бич".
17.40 Криминал.
18.35 Герой дня.
18.55 "Скорая помощь".
19.50 Детектив "День рождения Буржуя".
21.35 Футбол. Лига чемпионов. "Динамо" (Киев, Украина) — "Бавария" (Германия).
23.35 Сегодня в полночь.
0.00 Дневник Лиги чемпионов.

### "КУЛЬТУРА"

10.25 Комики XX столетия. Чарли Чаплин. Часть 2-я.
11.30, 13.30 Новости культуры.
11.35 Фильм Акиры Куросавы "Августовская рапсодия".
13.05 "Тарханы" с Тамарой Мельниковой". Передача 2-я.
13.50 "Приключения кузнечика Кузи". Мультфильм.
14.10 "Царская ложа". Наталья Макарова.
15.00 Новости.
15.10 "Тайна Сагалы". Телесериал.
15.35 Ф.Лист. Концерт № 1 для фортепиано с оркестром.
15.55 "Тайна Эдвина Друда". Телеспектакль. Часть 2-я.

### "МОГИЛЕВ-1" на БТ

14.25 Бобруйский вариант.
14.45 Мультфильмы.

### "МОГИЛЕВ-1"

6.30,7.10 "Ранехонько!"
7.00 "Навіны раніцы".
8.05 "Искушение". Телесериал.
8.50 "Очевидец". Док.сериал.
9.20 "Агирре, гнев божий". Драма.
16.30 "Диагноз:убийство". Телесериал.
17.20 Мультфильм.
17.30 "Снежный мир". Тележурнал.
18.00 "Праздник в Вашем доме".
19.20 Телемагазин.
19.30 День области.
20.00 "Праздник в Вашем доме".
20.45 "Хорошие и плохие". Боевик.
22.10 Астро-дайджест.
22.20 Спорт планеты.

### 2 КАНАЛ

7.00 "Энергетический завтрак".
8.10 — 12.00 ТВ-6.
15.00 ТВС представляет.
18.00 "Победоносный голос верующего".
18.30 Городские новости.
18.45 "Путешественники во времени. Библейские землетрясения". Док. фильм.
19.10 Мультфильм.
19.28 Прогноз погоды.
19.30 "Поздравления".
20.15 "В гостях у бабки Агапки".
20.30 "Поздравления".
21.20 Высокая мода.
21.30 Городские новости.
21.45 Боевик "Вызов".
23.45 Спортивная программа.

## •• Четверг, 23 марта ••

### БТ

6.30, 7.10 Доброе утро, Беларусь!
7.00, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 0.10 Новости.
8.10 "Сегодня с вами..."
8.40 Потребительская корзина.
9.10 Королевская охота.
9.40 Мультфильм.
9.55 Земляки. Клецкий район.
11.15 "Кофе с ароматом женщины".
11.55 Наш край.
12.25 "С душой". Док.фильм.
13.10 Мелодрама "Про любовь, дружбу и судьбу".
14.42 Мультфильм.
15.10 "Тайный мир Алекс Мак".
15.35 Мультфильм.
15.45 Видеокурс итальянского языка.
16.15 Видеокурс английского языка.
16.40 "Нарисуйте мне дом". Телеочерк.
17.10 "Душа не путешественница". Док. фильм.
17.35 Усадьба.
18.00 "Жаворонки, прилетите". Фильм-концерт.
18.40 Спортивные новости.
19.20 Политические диалоги.
19.50 "Кофе с ароматом женщины".
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.40 Событие.
22.00 "Золотой теленок". Худ.фильм. 2-я серия.
23.35 Криминальная хроника.
23.40 Крок. Клуб молодой семьи.

### ОРТ

8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 22.50 Новости.
8.15 "Нежный яд".
9.15 Маски-шоу.
9.45 Человек и закон.
10.20 "Ералаш".
10.30 "Новые приключения Синдбада".
13.30 Программа "Вместе".
14.20 "Охотники за привидениями".
14.45 Семь бед — один ответ.
15.00 Программа "100%".
15.25 ...До шестнадцати и старше.
16.00 "Нежный яд".
17.25 Выборы - 2000.
17.30 "Каламбур".
18.00 Процесс.
18.45 Сериал "Убойная сила". 8-я серия.
19.45 Спокойной ночи, малыши!
20.00 Время.
21.00 Сериал "Противостояние". 6-я серия (заключительная).
22.05 Сериал "Десять лет, которые..." 9-я серия. Год 1998. "Обвальный август".
23.05 "Ника - 2000".
23.15 Программа "Посмотри".

### "РОССИЯ"

7.00, 8.00, 16.00, 19.00, 22.00 Вести.
7.25 Телеспецназ: "Дежурная часть".
7.40 Семейные новости.
8.20 Квантовая медицина.
8.30 "Арена — спорт".
9.00 Квантовая медицина.
9.15 "Цыганка".
10.05 "Санта-Барбара".
16.20 "Башня".
17.10 Комедия "Не будите спящую собаку". 2-я серия.
18.25 "Круглый стол".

